# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 44(609) Год XII 29 КАСТРЫЧНІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### З НАГОДЫ 50-ГОДДЗЯ

У сувязі з 50-ай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ва ўсіх аддзелах БГКТ адбыліся пасяджэнні праўленняў, на якіх апрача абмяркоўкі выканання плана ў III квартале многа прысвяцілася ўвагі ўрачыстаму адзначэнню слаўнага юбілея.

### БЕЛЬСК - ПАДЛЯШСКІ

Бельскае праўленне аддзела БГКТ на пасяджэнні 9 кастрычніка пастанавіла арганізаваць у гуртках БГКТ на вёсках 30 вечарын, на якіх, між іншым, будзе прачытаны даклад «50 год савецкай улады». У Бельску і Орлі праўленне аддзела падрыхтуе ўрачыстыя акадэміі прысвечаныя Вялікаму Кастрычніку. Будзе таксама ў лістападзе прачытана 12 радыёгутарак аб сусветным значэнні сацыялістычнай рэвалюцыі. Бельскі харавы калектыў з нагоды гэтай гадавіны дасць 4 канцэрты. У трэцім квартале харавы калектыў выступіў 6 разоў.

На ўспомненым пасяджэнні праўленне аддзела апрацавала план дзейнасці да канца гэтага года. Да цікавейшых мерапрыемстваў, якія будуць праведзены, трэба залічыць: конкурс на ткацтва ходнікаў, наладжанне 4-ох аўтарскіх спатканняў з літаратарамі з аб'яднання «Белавежа» і арганізаванне двух новых гурткоў БГКТ. Зараз на Бельшчыне налічваецца 46 гурткоў, якія аб'ядноўваюць у сваіх радах 1569 членаў.

М. Х.

### ВІНШАВАННІ

Прэзідыум ГП БГКТ складае шчырыя віншаванні шматгадоваму дзеячу БГКТ Васілю Літвінчыку з нагоды атрымання за грамадскую дзейнасць высокай дзяржаўнай узнагароды, Кавалерскага Крыжа Ордэна Адраджэння Польшчы.

### ПАСЛЯ ЛЕТНЯГА ПЕРАПЫНКУ

Пасля летняга перапынку мастацкі гурток БГКТ у Гайнаўцы пачаў зноў сваі выступленні. За гэты час самадзейнікі падрыхтавалі новую, выключна эстрадную праграму. Зараз на яе складаюцца харавыя і сольныя песні, якія выконваюцца на беларускай, рускай, польскай і украінскай мовах. У будучыні прадбачваецца таксама апрацоўка народных песень Чэхаславакіі. Апрача песень гайнаўскія самадзейнікі ўключылі ў сваю праграму музычныя партыі, якія выконвае інструментальнае трыо; а таксама некалькі нумараў гумару, сатыры і пародыі.

З увагі на 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі гурток падняўся даць некалькі канцэртаў прысвечаных гэтай юбілейнай гадавіне. Такія канцэрты адбыліся: 16-га верасня ў Палічнай, 30-га верасня ў Ляшуках і 7-га кастрычніка ў Нараўцы. Галоўнае месца ў гэтых канцэртах займаў конкурс п. з. «Вялікі Кастрычнік — і я», які самадзейнікі пастанавілі кожны раз праводзіць дзеля паглыблення ведаў насельніцтва адносна кастрычніцкіх дзён 1917 г. Такая форма прапаганды аказалася вельмі добрай. Жыхары вёсак ахвотна прымаюць удзел у конкурсе. Пераможцы атрымоўваюць кніжныя ўзнагароды і... многа воплескаў.

Кожнае выступленне гайнаўскага гуртка, кожны выезд у вёску — гэта новыя знаёмствы, сардэчныя сустрэчы з беларускім насельніцтвам, з людзьмі, якія з сапраўдным захапленнем слухаюць родную мову, так дарагія сэрцам словы, народныя песні.

С.С.

### 20.X. — ФЕСТЫВАЛЬ САВЕЦКІХ ФІЛЬМАЎ — 19. XI.



Кадр з фільма «Вайна і мір» — па аднайменнаму раману Льва Талстога, у пастаноўцы Сяргея Бандарчука.




### ПІСЬМЕННІКУ

Дык калі ж, калі ж ты прыбярэшся
Напісаць пра край свой хоць радок?
Скора носам у труну ўпрэшся
І адкінеш справы ўсе на бок.

Напішы пра тое, як душылі
Родны край цары, князі, паны.
Як адпор давалі гэтай сіле
Беларусі слаўныя сыны.

Як жыццё за волю аддавалі
Свайго краю, каб шчаслівы быў,
Каб патомкі гора больш не зналі,
Каб з іх кожны быццам кветка цвіў.

Дык хутчэй бярыся, брат, за працу,
Думкамі патроху варушы,
Не сядзі, не траць дарэмна часу,
Ты пішы, браток, пішы, пішы, пішы.

*

Дні пралятаюць чарадою
Паміж турбот, паміж няўзгод,
Сваёй няспыннаю хадою
За годам прабягае год.

І мы смяртэльныя істоты
Не можам гэтага Цаняць,
Што ўсім жыццём, усёй турботай
Бег часу нам не ўтаймаваць.

Нам не зрабіць пры ўсём жаданні
Усё, што хацелі б мы зрабіць.
І так, заўсёды з нараканнем
Па-іншаму нам трэба жыць.

Бо ў жыцця свае законы, —
Нам невядомыя правы.
Хтосьці скажа — гэта забабоны
І ў гэта ўсё не верым мы.

Бо ўсемагутная навука
Цяпер зямны трымае шар,
Любая нам, вядома, штука,
А чалавек — ўсім гаспадар —

Стварыў магутныя ракеты.
І скора панадыйдзе час,
Што ўсе далёкія планеты
Блізкімі стануцца для нас.

Ён вырваў атам з рук прыроды —
Магутнай сілы рухавік,
З ім зліквідуе ўсе няўзгоды,
Дык шчасця пойдзе напрамік...

— Ды толькі ён таго не чуе,
Як падымаецца вышэй,
Магілу ён сабе гатуе —
Чым больш вышэй —
Тым больш хутчэй!

Бо як дасягне апагея...
Ды лепш не буду я казаць,
З апошняй кропкі перыгея
Жыццё ён будзе пачынаць.

**Ул. Верас**
г. Маладзечна 9.IX. 67 г.

## САЛДАТЫ КАСТРЫЧНІКА

Папярэднім разам расказаў я вам, як мучыліся бежанцы. Завезлі нас аж у Азію — у горад Каканд. Там я пасябраваў з адным студэнтам, хімікам, Арцёмам Іванавічам Грыгарыянцам, якому дапамагаў рабіць розныя хімічныя аналізы. Памятаю, што з фронту прыслалі нам тады паведамленне аб смерці брата Антона. Я так усхваляваўся гэтым, што рашыў добраахвотна ісці на фронт, каб помсціць яго смерць.

— Дурны ты, Ванька, — кажа Арцём. — За што загінуў твой брат? Буржуі на вайне капіталы збіваюць, а рабочыя і мужыкі кладуць галавы, — талкуе ён. — Скажы, патрэбны табе або твайму брату нейкія там Дарданелы ці што другое? А можа ты сам маеш некалькі заводаў, што?

І давай мне па кніжцы талкаваць, што гэта такое эксплуатацыя, прыбыль, прыбавачная вартасць і так далей. А была гэта, трэба вам ведаць, кніжка Карла Маркса, самая важная яго кніжка — «Капітал». Калі я так паслухаў студэнта Арцёма, дык адхацелася мне ўсялякай помсты і вайны. За яго намовою я паехаў у Маскву, дзе ён вучыўся. Дастаўся я на парфумерную фабрыку. Вядома, Арцём дапамог, бо інакш не прынялі б.

Жылося там зусім нядрэнна. У фабрыцы працавалі амаль адны дзяўчаты, або салдаткі, а хлопцаў, такіх як я, 16—17-цігадовых было зусім мала. Толькі з хлебам прыходзілася ўсё трудней. У чарзе, бывала, ноч цэлую прастаіш і нічога не атрымаеш. Пачаліся тады забастоўкі, мітынгі, дэманстрацыі. І так дайшла да нас вестка, што цар Мікалай II адказаўся ад прыстола. Аратары розныя закрычалі, што будзе свабода, далоў вайну, адставіць пайкі, разбіць турмы. Стала агульнае свята. Людзі хадзілі па вуліцах, як ап'янелыя.

Мала-памалу гарачка прыціхла, а вайна далей збірала ахвяры. Толькі бальшавікі выступалі супраць вайны. Арганізавалі яны Рэвалюцыйныя Ка-




мітэты. Вось у суседняй фабрыцы інжынера Бары членам Рэўкома быў таварыш Адынцэў. Арцём сказаў мне, як бы што, ісці да яго.

Недзе на пачатку кастрычніка 1917 года на панадворку нашай фабрыкі эсэры, значыць сацыял-рэвалюцыянеры (была такая партыя драбнейшых буржуяў і багатых мужыкоў) развесілі плакаты, што будзе мітынг. Я тут жа паведаміў Адынцэва.

— Малайчына, — кажа ён. — Мы гэтую справу неяк абмяркуем.

На другі дзень прыйшло да мяне двух землякоў, значыць бежанцаў, прывіталіся і кажуць, што іх прыслаў Адынцэў, каб разгледзець абстаноўку, дзе мае праходзіць мітынг. Ходзяць па панадворку, заваленым скрынкамі і пустымі бочкамі і смяюцца адзін да другога.

— Чаго вам так весела? — пытаю.

— Пачакай, — кажа адзін, — і ты будзеш смяяцца.

У абед пачаўся гэты эсэраўскі мітынг. Выступіў іх аратар і давай расхвальваць народную ўладу без цара бацюшкі Мікалашкі II.

— Усё было б добра, братцы, — крычыць, — але немцы прыслалі ў Расію ў запламбаваным вагоне Леніна і ён усё псуе. Няма хлеба, — крычыць, — вінаваты, значыць, Ленін, развал на фронце, — гэта таксама вінават Ленін.

— А хто ж ён такі, гэты Ленін? — пытае старэнькі сторож нашай фабрыкі. — Ці гэта нейкі вялікі ды злосны чарадзей, што ён усё сам змог зрабіць і ўсё яму ўдаецца?

— У яго ёсць свая партыя, — крычыць эсэраўскі аратар. — Яго партыя служыць немцам!

— Брэшаш! — перабіла яго адна работніца. — Не слухайце яго, людзі добрыя! Мая сястра жыве ў Петраградзе і таварыла, што бачыла, як рабочыя сустракалі Леніна на вакзале. Прыехаў ён

(Працяг на стар. 4)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ЗЯМЛЯ — ВЕНЕРА

Велізарная савецкая ракета данесла аўтаматычную навуковую станцыю на планету Венера. З паверхні Венеры станцыя перақазвае навуковыя інфармацыі. Гэта з'яўляецца новым велізарным крокам наперад у асвойванні космасу. Цэлы свет з захапленнем прыняў гэты новы поспех савецкай навукі і тэхнікі.

Падкрэсліваецца, што гэта з'яўляецца найвялікшым дасягненнем апошняга дзесяцігоддзя. Лонданскі «Таймс» сцвярджае, што «Руская здзейснілі тое, што амерыканцы планавалі на 1972 год».

### ДЭМАНСТРАЦЫЯ ЛЯ ПЕНТАГОНА

В'етнамская вайна зноў выклікала ў ЗША ўнутранае рознагалоссе. Амерыканскімі гарадамі зноў страсянулі дэманстрацыі. Кульмінацыйным пунктам **былі мінулая субота і нядзеля ў Вашынгтоне.** Адбылася тут найвялікшая ў гісторыі ЗША мірная дэманстрацыя. **Супраць вайны ў В'етнаме дэманстравала больш 100 тысяч амерыканцаў.** Дэманструючыя сабраліся ля Пентагона (**амерыканскае міністэрства абароны**), а потым перарваўшы кардон паліцыі і гвардыі праз некалькі мінут акупіравалі будынак Пентагона. Больш 200 дэманстрантаў арыштавана. У ЗША рыхтуецца 40 тысяч месц у турмах для прадбачваных далейшых удзельнікаў дэманстрацыі.

### ВАЕННАЯ ІГРА ДЖОНСАНА

Вялікабрытанская прэса прадбачвае, што незадоўга, пад націскам грамадскай думкі, прэзідэнт Джонсан прыпыніць на некаторы час налёты на ДРВ. Будзе гэта сімуляваны манеўр «добрай волі», таму што спыненне налётаў не будзе ані бестэрміновым, ані безагаворачным, а будзе разлічана толькі на палітычны націск на Ханой. Калі ДРВ не акажа сваёй уступчывасці — бамбардзіроўкі пачнуцца зноў і то яшчэ з большай інтэнсіўнасцю паклікаючыся на тое, што спыненне бамбардзіровак не адплочана ўзаемнасцю з боку ДРВ. Гэтая ігра мае палегчыць Джонсану далейшую эскалацыю і замкнуць вусны апазіцыі.

### ЖАДАННІ ЛОНДАНА

Вялікабрытанія пачала моцна старацца, каб навязаць дыпламатычныя адносіны з Аб'яднанай Арабскай Рэспублікай. Гэты нечаканы зварот у брытанскай палітыцы перад усім выкліканы гаспадарчымі цяжкасцямі Вялікабрытаніі. Закрыццё Суэцкага канала балюча адбілася на брытанскім плацёжным балансе. Таму Лондан выступіў з ініцыятывай як найхутчэйшага паляпшэння адносін з Каірам і шукання такіх развязак, якія прычыніліся б да адкрыцця канала. Зарысавалася тады рознагалоссе між палітыкай ЗША, якая далей папірае і адабрае палітыку Ізраіля, а Лонданам, які зараз абцяжарвае Тэль-Авіў адказнасцю за абвастрэнне блізкаўсходняга крызісу. Аднак многагадовая пакорнасць брытанскай палітыкі для ЗША навучыла Вашынгтон, што можна адносіцца абыякава да прапаноў саюзніка.

А. К.

## БССР

### СЕСІЯ

Адбылася другая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Адкрыў сесію Старшыня Савета, Максім Танк, вядомы беларускі пісьменнік.

Сесія разгледзела Дзяржаўны план развіцця гаспадаркі Беларусі на 1968 год і планы развіцця беларускай гаспадаркі на наступныя — 1969 і 1970 гады. Разгледжана таксама бюджэтныя справы, абмеркавана работу спажывецкай кааперацыі Беларускай ССР па абслугоўванню сельскага насельніцтва, і выбрана Вярхоўны суд Беларускай ССР.

### ВЫСТАЎКА

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, Мастацкім салоне і Акруговым Доме афіцэраў адбылася вялікая выстаўка пад назваю: **«Мастакі Беларусі — 50-годдзю Вялікага Кастрычніка».** На выстаўцы дэманстравалася 486 работ жывапісу, графікі і скульптуры. Найбольш шырока быў рэпрэзентаваны **жывапіс — 223 творы.**

Аўтарамі выстаўленых мастацкіх прац з'яўлялася каля 250 мастакоў, пражываючых у Беларусі.

Па размаху і колькасці выстаўленых працаў гэта выстаўка з'явілася самай вялікай з усіх выставак, якія адбываліся ў Беларусі. Большасць прац прысвечана рэвалюцыйным падзеям на Беларусі, гераічнай барацьбе беларусаў супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і працоўным подзвігам у мірныя дні. Выстаўку наведала звыш дзесяці тысяч асоб, м. ін. кіраўнікі Беларусі — Старшыня Савета Міністраў БССР **Ц. Кісялёў,** сакратары беларускай кампартыі **Ф. Сурганаў, С. Пілатовіч, Д. Філімонаў,** міністр культуры БССР **М. Мінковіч.**

### ГАНАРОВЫЯ

За актыўны ўдзел у канцэртах Дзён Беларускай ССР у Арменіі і высокае выканаўчае майстэрства Прэзідыум Вярхоўнага Савета Армянскай ССР узнагародзіў Ганаровымі граматамі групу артыстаў з Беларусі.

### СЕМЯНЯКА

У адным з апошніх нумараў мінскай «Літаратуры і Мастацтва» змешчана хвалюючы артыкул пра кампазітара **Юрыя Семяняку,** талент якога ведаюць і шчыра шануюць таксама і ў нас, на Беласточчыне. Аўтарам артыкула з'яўляецца вядомы беларускі паэт Алесь Бачыла, які м. ін. піша:

«Ю. Семяняка творча вельмі актыўны. Не бывае амаль ніводнага канцэрта, у якім не выконваліся б яго песні... Не спыняюся я і на аналізе напісанага Юрыем Семянякам. Мне проста хочацца скіраваць увагу на гэтага вельмі шчырага, неспакойнага кампазітара, які нямала працаваў над тым, каб перадаць часцінку сваёй душы людзям. Будзем жа ўдзячны яму за гэта, і няхай наша ўдзячнасць надасць яго музычным крылам новую дужасць, паспрыяе больш высокаму ўзлёту».

Лішнім хіба будзе дадаваць — да гэтых пажаданняў далучаемся і мы, беластачане, што знаходзім столькі свайго ў семянякаўскіх улюбёных мелодыях. Юры Семяняка пабываў на Беласточчыне ў час гастроляў у нас слыннай шырмаўскай капэлы.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ДНІ, ЯКІЯ ПАТРАСЛІ СВЕТАМ

З вялікай колькасці рознага роду мерапрыемстваў, якія праводзяцца ва ўсёй краіне ў гонар 50 гадавіны Вялікага Кастрычніка, варта аднатаваць спектакль пад загалоўкам: «Дні, якія патраслі светам», які адбыўся на эстрадзе Палаца спорту ў Лодзі. У выкананні гэтай пастаноўкі прыняло ўдзел 50 прафесіянальных акцёраў, 200 салдатаў, 300 статыстаў, 400-асабовы хор, студэнты Вышэйшай тэатральнай і фільмовай школы.

### НОВАЕ МІНІСТЭРСТВА

Сеймавая камісія разгледзела ўрадавы праект пастановы аб утварэнні Міністэрства машыновай прамысловасці. Паслы аднагалосна выказаліся за ўрадавым праектам, падкрэсліваючы, што падпарадкаванне так шырокай галіны жыцця, якім была ўся цяжкая прамысловасць аднаму міністэрству стварала вялікія цяжкасці ў кіраванні гэтай галіной прамысловасці.

### МАР'Я КЮРЫ-СКЛАДОЎСКАЯ

У Варшаве адбыўся 4-дзённы міжнародны сімпозіум прысвечаны 100 гадавіне са дня нараджэння Мар'і Кюры-Складоўскай — вялікай вучонай польскага паходжання, заснавальніка сучаснай ядзернай фізікі. Урачыстасць адбывалася пад патранатам ЮНЭСКА і Міжнароднага агенцтва атамнай энергіі. У Польшчы ўрачыстасці ўзначальваў камітэт, на чале якога стаў прэм'ер Юзэф Цыранкевіч. На ўрачыстасць у Варшаву прыехала каля 150 сусветнай славы вучоных з 22 краін свету, у тым ліку 10 лаўрэатаў нобелеўскай прэміі.

### ПАКРЫШКІ

На 4 месяцы раней тэрміну аддадзена ў карыстанне Альштынскае прадпрыемства пакрышак (апонаў). Будзе гэта трэцяе такога роду прадпрыемства пасля «Стоміля» і «Дэмбіцы». Ужо ў наступным годзе выпрадукуе яно 40 тысяч пакрышак і камер (дэнтак) на агульную суму 82 мільёнаў злотых.

### ТРАНСПАРТ

Як паінфармаваў міністр хімічнай прамысловасці — А. Радліньскі, асноўнай цяжкасцю ў поўным забеспячэнні сельскай гаспадаркі ў штучныя ўгнаенні з'яўляецца транспарт. Цяжкасці гэтыя будуць узрастаць з месяца на месяц у сувязі з узростам прадукцыі штучных угнаенняў, колькасць якіх перакрочвае ўжо транспартныя магчымасці нашых чыгунак.

### РАКЕТЫ

Спецыялісты з Інстытута ракетных і сатэлітарных доследаў у Кракаве закончылі другі ў гэтым годзе цыкл доследаў над вятрамі ў вышэйшых слаях атмасферы (у стратасферы). Праз 6 тыдняў з даследчыцкага палігону ля Усткі ўзнеслася ў стратасферу 17 польскіх метэаралагічных ракет «Метэор — 1». На працягу 3 гадоў — ад моманту выстралу першай польскай метэаралагічнай ракеты — польскія вучоныя выслалі ўжо ў атмасферу каля 60 ракет, з чаго звыш 40 ракет выстрэлена ў гэтым годзе. У час сваіх доследаў кракаўскім метэаролагам удалося прасачыць змену напрамку вятроў.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ГАСПАДАРКА І ГАСПАДАРЛІВАСЦЬ

18 кастрычніка г.г. адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Было яно прысвечана абмеркаванню ажыццяўлення пастаноў VII Пленума Цэнтральнага Камітэта ПАРП.

Для парадку варта прыпомніць, што VII Пленум ЦК апрацаваў метады і спосабы актывізацыі гаспадарчага жыцця ў нашай краіне. Ва ўсіх прадпрыемствах былі пакліканы завадскія камісіі і рабочыя калектывы, якія дакладна разгледзелі арганізацыю працы, выкарыстанне прадукцыйных запасаў і працаздольнасць людзей у сваіх прадпрыемствах. На працягу васьмімесячнай дзейнасці завадскія камісіі і рабочыя калектывы вынеслі 3612 прапаноў, сярод якіх амаль 3 тысячы, пасля іх дакладнай ацэнкі, прызнана як надта ж каштоўныя. Адносяцца яны да арганізацыі вытворчасці, да паляпшэння выкарыстання рабочай сілы і рабочага дня працы, указваюць на мерапрыемствы, якія палепшылі б якасць вырабаў і магчымасці прадукцыі новых, перш за ўсё, экспартных тавараў. Да канца месяца ліпеня г.г. прадпрыемствы Беласточчыны выкарысталі ўжо практычна 911 прапаноў.

Атмасфера, якую ў прамысловасці стварыў VII Пленум ЦК, спрыяла лепшай працы. У параўнанні да гэтага самага перыяду мінулага года прамысловасць Беласточчыны сёлета дабілася звыш 16-ціпрацэнтавага прыросту прадукцыі. Асабліва важна, што гэты прырост дасягнута перш за ўсё ў выніку паляпшэння прадукцыйнасці і якасці працы, а не за кошт павелічэння рабочых калектываў прадпрыемстваў. Гэта ў асноўным садзейнічала росту матэрыяльнага быту рабочых, якіх зарплата ў гэтым годзе ўзрасла на звыш 10% у параўнанні да ўзроўню з мінулага года.

Вядома, гаспадарка Беласточчыны не дабілася яшчэ ідэальнага парадку. Яе хібаў не скрываў дакладчык, і гаварылі аб іх члены **Ваяводскага камітэта** ў час спрэчак. Кожнае прадпрыемства павінна было апрацаваць дакладныя, разбітыя на аддзелы, цэхі і паасобныя станкі, праграмы дзейнасці. Некаторыя завадскія камісіі і кіраўнікі прадпрыемстваў прывыкшыя да старога стылю працы, падышлі да справы надта ж фармальна. Іх зараз чакае перапрацоўка сваіх прадукцыйных намераў. Добрай нагодай дзеля гэтага будуць канферэнцыі рабочага самакіравання, якія маюць абавязак зацвердзіць прадукцыйны план для сваіх прадпрыемстваў на 1968 год і апрацаваць свае прапановы да завадскога плана на 1969 год.

Разважлівасць, добрая арганізацыя працы і поўнае выкарыстанне прадукцыйных запасаў — гэта асноўныя заданні, якія для прадпрыемстваў Беластоцкага ваяводства вызначыла пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта ПАРП.

В.Р.




**NIEDZIELA 29.X.**

9.05 Program. 9.10 TV Kurs Rolniczy: „Środowiska dla krów mlecznych''. 9.45 „Przypominamy, radzimy''. 9.55 Dla młodych widzów: „Uważne oko'' — telekonkurs. 11.50 Sprowozdanie sportowe. 12.30 Sprawozdanie sportowe. W przerwie ok. 13.15 PKF. 14.15 Teatrzyk dla Przedszkolaków. 14.55 „Przemiany''. 15.25 „Koń, który mówi'' — film („Ed gazeciarz''). 15.50 „Wielka gra''. 16.40 „Klucze do bram cmentarza'' („Ludzie i zdarzenia''). 17.00 Estrada Literacka: A. Puszkin — „Eugeniusz Oniegin''. 17.45 „Laureat Archimedesa''. 18.25 „Telewidzenia'' — program St. Grodzieńskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Mars i Flora'' („Freski historyczne''). 20.35 „Małżonek'' — film fab. wł. 22.00 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 30.X.**

15.40 Program. 15.45 i 22.25 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 „Kino Ptyś''. 17.20 „Medale i detale''. 17.40 „Ucieczka Duszki'' — film fr. 17.55 Telekram. 18.15 Magazyn Postępu Technicznego. 18.45 „Spacerkiem po kinach''. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Generał Adamow'' B. Ławreniewa. 21.05 „Miasto Lenina'' — film Tele-Aru. 21.20 „W rytmie jazzu'' — film TV radz. 21.50 „Na ratunek'' — rep. filmowy. 22.05 Dziennik.

**WTOREK, 31.X.**

8.40 „Zabawy w muzeum'' — film fab. węg. 9.55 Dla szkół: (kl. lic.) Język polski: Sofokles — „Król Edyp''. 10.35 Przerwa. 11.00 Dla szkół: (kl. IV) „Dunajcem przez Pieniny''. 11.20 Przerwa. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Praca stacji chemiczno-rolniczej''. 13.05 Przerwa. 15.05 Program. 15.45 i 22.20 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę''. 17.30 „Klub pod Smokiem''. 18.00 „Giełda piosenki''. 18.30 „Po szóstej''. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 TV Kurier Warszawski. 20.20 „Pod znakiem jakości''. 20.50 „Zabawy w muzeum'' — film fab. węg. 22.20 Dziennik.

**ŚRODA, 1.XI.**

12.35 Program. 12.40 PKF. 12.50 Dziennik. 13.00 „O carski tron'' — film fab. bułg. 14.30 Dla dzieci: „Przydróżka'' H. Januszewskiej — widowisko Państwowego Teatru Lalek „Ateneum''. 15.20 „Wizerunek'' 16.00 „Cmentarz'' — rep. filmowy. 16.15 „Paszport matki'' — film dok. radz. 16.50 „Tadeusz Kościuszko'' — teleturniej. 17.50 „Teatr TV na świecie'' — „Śmierć sędziego Gołowina'' Lwa Tołstoja — film TV prod. węgierskiej. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 „Symfonia fantastyczna'' — film fab. fr. 21.35 „Światowid''.

**CZWARTEK, 2.XI.**

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski: „Dante, Petrarka''. 12.25 Przerwa. 15.50 i 23.00 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem''. 18.05 „Janosik idzie do fabryki''. 18.35 „Z kamerą po świecie''. 18.50 „Gawędy muzyczne'' prof. S. Śledzińskiego („Historia muzyki''). 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 „Rzeka'' — program ekonomiczny. 20.35 „Kabina nr 9'' — film fab. radz. 22.05 „Koncert na skrzypki weselne'' — film dok. pol. 22.35 Dziennnik.

**PIĄTEK, 3.XI.**

8.25 „Słońce świeci dla wszystkich'' — film fab. radz. 9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Kierowane sanki''. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Do broni!''. 11.25 Przerwa. 15.40 Program. 15.45 i 22.55 Politechnika TV. 17.00 „Miś z okienka''. 17.15 „Góry Księżycowe'' („Wielka przygoda'') — film. 17.45 „Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 Wszechnica TV: „Astronautyka radziecka''. 18.55 Recital Andrzeja Szajewskiego. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Reportaż filmowy. 20.35 „Piękny był pogrzeb, ludzie płakali'' — film TV pol. 21.25 „10 minut recenzji''. 22.05 Dziennik.

**SOBOTA, 4.XI.**

9.30 „Praski blues'' — film fab. CSRS. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia: „Jak powstaje mapa''. 11.25 Przerwa. 15.50 Program. 15.55 TV Kurs Rolniczy: „Pasze gospodarskie podstawą żywienia bydła''. 16.30 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci''. 16.40 Program tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Trójmecz harcerski''. 17.50 „Spotkania z przyrodą''. 18.15 „Warszawa, ja i Ty''. 18.40 „Wieczorne rozmowy''. 19.05 „Dobranoc''. 19.15 Koncert Inauguracyjny V Międzynarodowego Konkursu im. H. Wieniawskiego. 20.00 „Monitor''. 20.40 Film. 21.10 Teatr Rrozrywki: „Coś z Freuda'' — T. Kwiatkowskiego. 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości Sportowe. 22.25 „Windą na szafot'' — film fab. fr.




**PIĄTEK, 27.X.**

10.15 Dziennik. 10.30 Kronika półwiecza. „Rok 1949''. 11.15 Kronika TV. 14.30 Program. 14.35 Dziennik. 14.40 Dla uczniów. 15.10 Język angielski dla przedszkolaków. 15.30 „Ideowość — nasz oręż''. 15.55 Tezy KC KPZR. 16.00 Dziennik. 16.15 Filmy dla dzieci. 16.50 „Zdrowie''. 17.30 „Z historii muzyki''. 17.50 „Sztafeta nowin''. 18.50 Film TV. 20.00 Nauka i sport''. 20.30 Koncert.

**SOBOTA, 28.X.**

8.45 Gimnastyka. 9.15 Język angielski dla przedszkolaków. 9.35 „Eugeniusz Oniegin''. Film. 11.25 Program. 11.30 Reportaż z fabryki traktorów w Mińsku. 12.00 Program telewizji barwnej. 13.30 „Rówieśnicy!''. 14.15 Tezy KC KPZR. 14.20 Dziennik. 14.45 „Drogami ojców — bohaterów''. 15.05 „Ja z 60-tych''. 16.30 Film dla dzieci. 16.45 „Melioracja — sprawa ogólnonarodowa''. 17.30 Klub filmowy. 18.30 Dziennik. 18.50 Film TV. 19.25 W eterze „Młodość''. 20.00 „Sport radziecki liczy 50 lat''. 20.40 Koncert.

**NIEDZIELA, 29.XI.**

7.55 Program. 8.00 „Budzik''. 8.30 „Słuchaj nas, Ojczyzno''. 8.50 „Białe i czarne''. 9.30 Dla przedszkolaków. 10.00 Dla młodzieży. 11.00 Dla żołnierzy. 11.35 Tezy KC KPZR. 12.00 Program telewizji barwnej.13.30 „Kiosk muzyczny''. 14.00 Reportaż filmowy z Tygodnia olimpijskiego w Meksyku. 14.35 Szkatułka muzyczna. 14.55 „Szkoła, rodzice, dzieci''. 15.10 „Piosenka''. 15.25 O operze Muradeli „Październik''. 16.45 W eterze „Młodość''. 18.30 Dziennik. 19.00 „Białoruś — republika moja''.

Пазбегнуць канфлікту стала ўжо немагчыма. Памочнікі Кенедзі лічылі, што галоўным пасажырам самалёта «ВПС-1», быў іх памёршы прэзідэнт, але, паколькі ён ужо не мог ім загадваць, яны чакалі загаду ад пані Кенедзі, якая таксама, як і яны, спяшалася пакінуць Далас і была ў неўразуменні наконт прычыны затрымкі. У памочнікаў жа Джонсана быў іншы настрой. Яго выказаў Янгблад, які адвёў убок Лема Джонса і цвёрда сказаў яму:

— Калі бос скажа, каб мы адпраўляліся, толькі тады мы адправімся.

Макх'ю ў трэці раз накіраваўся да кабіны пілотаў. Ён заўважыў Макілдафа. Кінуўшыся да яго, Макх'ю сказаў усхвалявана:

— Мы павінны неадкладна ўзляцець.

— Не, мы не зробім гэтага, пакуль Джонсан не прыме прысягу, — запярэчыў Макілдаф.

— Джонсана тут няма, ён на другім самалёце.

— Тады ідзіце і скажыце высачэзнаму тэхасцу, што ён не Ліндан Джонсан, — сказаў Макілдаф. — Мы не збіраемся ляцець у Эндрус да таго часу, пакуль прэзідэнт не прыме прысягу.

Кроў кінулася ў твар Макх'ю. Паказаўшы рукой у тым напрамку, дзе знаходзілася труна Кенедзі, ён закрычаў:

— У мяне толькі адзін прэзідэнт, і ён ляжыць у той кабіне!

Гэта была драматычная сцэна. Самалёт быў невялікі, і словы Макх'ю неўзабаве сталі вядомыя ўсім, хто ў ім знаходзіўся. Кен О'Донел чуў іх і ганарыўся генералам.

— Сёння раніцай вы былі вось такога росту, — сказаў ён, паказаўшы рукой адлегласць у некалькі вяршкоў ад падлогі. Затым ён падняў руку над галавой і сказаў: А цяпер вы вось такога росту.

Але ў Ліндана Джонсана таксама былі вушы. Гэта кароткая размова ў радыётрубцы змяніла лёс абодвух людзей. Макілдаф, якога О'Донел выкрэсліў з ліку людзей, блізкіх да нябожчыка прэзідэнта, зрабіў заяўку на пасаду ў новым урадзе, а генерал Макх'ю развітаўся са сваёй надзеяй на павышэнне ў чыне. Мала таго, яго дні ў ваеннай форме былі злічаныя.

**СПЕКТАКЛЬ НА «ВПС-1»**

Пасля таго, як новы прэзідэнт змяніў сарочку і зачасаўся, Джо Эйрс падрыхтаваў некалькі блакітных ручнікоў з маркай ВПС для Жаклін Кенедзі. Яна падзякавала яму і ўвайшла ў спальню. Услед за ёю туды ўвайшлі Джонсаны, каб выказаць ёй спачуванне. Джонсан назваў яе «галубачка», абняў яе і па-




-ківаў галавой, а выказаць спачуванне пакінуў жонцы. Пані Джонсан усё ж жанчына, да таго ж пані Кенедзі сімпатызавала ёй. Новая першая лэдзі, твар якой быў змочаны слязьмі, сказала:

— Ах, Джэкі, вы ведаеце, нам нават не хацелася быць віцэ-прэзідэнтам, і вось як атрымалася!

— Божа мой, як добра, што я была там! — усклікнула Жаклін Кенедзі. — Як я рада, што я была пры ім.

Сам Джонсан інтуітыўна паводзіў сябе правільна. Словы тут былі непатрэбны. А пані Джонсан, якая звычайна была ўвасабленнем такту, на гэты раз аказалася не на вышыні.

— Ах, не ведаю, што сказаць, — усхліпвала яна і раптам выпаліла: — Больш за ўсё мяне прыгнятае тое, што гэта здарылася ў маім любімым штаце, Тэхасе.

Але, яшчэ не паспеўшы закончыць фразу, яна зразумела што язык падвёў яе: «Я адразу пашкадавала аб гэтым», — расказвала яна пазней. Не трэба было ў гэты дзень праяўляць свой тэхаскі патрыятызм. Ёй належала больш смуткаваць аб смерці Кенедзі. Яна апусціла вочы і ўбачыла запырсканую крывёю пальчатку. Яна заўсёды зайздросціла ўменню Джэкі насіць пальчаткі. Сама яна адчувала сябе ў іх няёмка і толькі чакала выпадку скінуць іх. А на Джэкі і пальчаткі здаваліся часткай яе самой. І цяпер яны былі запырсканы крывёю яе мужа.

— Пасланаць каго-небудзь дапамагчы вам пераапрануцца? — спытала пані Джонсан.

— Не, не, — адказала пані Кенедзі. — Магчыма, пазней я папрашу Мэры Галагер. Толькі не цяпер.

Яны ўтраіх сядзелі на ложку, пані Кенедзі ў сярэдзіне. Пасля невялікай паўзы Джонсан няўпэўнена прагаварыў:

— Так, дык вось наконт прысягі...

— Ліндан, — пачала было пані Кенедзі і тут жа асеклася. З усіх, хто суправаджаў яе мужа, яна першая прымірылася з тым, што здарылася. — Ах, прабачце мяне, я ніколі больш не буду называць вас так, — сказала яна. — Я хацела сказаць: пан прэзідэнт.

— Галубачка, я спадзяюся, што вы будзеце мяне называць так усё сваё жыццё, — сказаў ён.

Яна маўчала. Ёй таксама было цяжка знайсці словы. Цяпер жа ён быў прэзідэнтам, а яна цвёрда вырашыла больш ніколі не называць яго па імені.

— Дык вось наконт прысягі... — пачаў зноў Джонсан.

— Так, так, я ведаю, я ведаю, — прагаварыла яна хутка. Яна таксама бачыла малюнкі ў падручніках і ведала, што прысягу прэзідэнт можа прыняць дзе хоча. Яе можна прыняць нават тут, і, відавочна, так яно і будзе.

І яна сказала:

— Так, дык што ж будзе?

— Я паслаў за суддзёй, гэта стары мой сябар суддзя Х'юс, — адказаў ён. — Яна будзе тут праз гадзіну. Чаму б вам не прылегчы і не асвяжыцца крышку. Мы пакінем вас адну.

— Добра, — сказала яна рассеяна. Джонсаны выйшлі, зачыніўшы за сабой дзверы.

Застаўшыся адна, яна закурыла цыгарэту і бяздумна ўставілася ў прастору. Затым раптам сэнс сказанага дайшоў да яе. Праз гадзіну, падумала яна. Божа мой, мне яшчэ прыдзецца чакаць цэлую гадзіну?

Убачыўшы Джонсана Макх'ю зразумеў, што яму трэба было раней адчыніць дзверы асабістай кабіны прэзідэнта. Джонсан сапраўды быў у самалёце. Калі прысягу вырашана прымаць у самалёце, спытаў генерал, то чаму нельга гэту цырымонію зрабіць у паветры? Пытанне было законнае, але ніхто не даў на яго зразумелага адказу. Замест гэтага пачалося ажыўленае абмеркаванне пытання аб тым, якая павінна быць экспазіцыя і ракурс здымкаў. У таго-сяго пачало ўзнікаць падазрэнне, што ім прыйдзецца прысутнічаць на спектаклі, у якім вымусяць удзельнічаць удаву прэзідэнта Кенедзі.

Сама ўдава пачала рабіць такі ж вывад. Пасля таго, як Джонсаны выйшлі са спальні, яна заўважыла, што на другім ложку акуратна раскладзен туалет, які прызначаўся для яе ў Остыне, — белая сукенка, белы жакет і чорныя туфлі. Пані Кенедзі зразумела, што яны хацелі, каб яна выглядала беззаганна на фатаграфіі, на якой будзе паказана сцэна прысягі.

Сам Джонсан асабліва старанна пакланаціўся аб сваім выглядзе. Гэтыя клопаты вельмі лёгка фальшыва вытлумачыць. Але калі прысяга павінна сімвалізаваць пераемнасць амерыканскай сістэмы кіравання, то гэты спектакль павінен быць пастаўлены па ўсіх правілах. А калі яго галоўнай тэмай павінна быць пераемнасць, тады ўжо, вядома, пажадана прысутнасць Жаклін Кенедзі, як бы пакутліва гэта ні было для яе самой.

**(Працяг будзе)**

# Марыя Складоўская-Кюры



Марыя Складоўская-Кюры належыць да тых нешматлікіх жанчын, якія трывала ўвайшлі ў гісторыю нашага свету. Вялікая вучоная — яна ўнесла каштоўны ўклад у развіццё фізікі і стварэнне падстаў навукі аб радыёактыўнасці.

Марыя Складоўская нарадзілася ў 1867 годзе ў Варшаве, у сям'і настаўніка. Выдатна закончыўшы гімназію, выехала за граніцу і паступіла ў Парыжскі універсітэт. У 1895 г. працавала ў лабараторыі маладога французскага вучонага П'ера Кюры, за якога потым выйшла замуж. Маючы трыццаць год напісала сваю першую навуковую працу аб магнітных уласцівасцях загартаваных сталей. У 1903 годзе абараніла доктарскую працу **«Даследванне радыёактыўных рэчываў».** У 1906 годзе Марыю напаткала вялікае гора — у вулічным выпадку загінуў яе каханы муж П'ер. Марыя Складоўская заняла яго месца прафесара і кіраўніка кафедры ў Парыжскім універсітэце, дзе была першай жанчынай - прафесарам. Ва універсітэце яна ўпершыню ў свеце пачала выкладаць курс па радыёактыўнасці.

Марыя Складоўская-Кюры адкрыла новыя радыёактыўныя элементы: **палёнія і рад** (першы элемент Марыя Складоўская назвала ў гонар сваёй айчыны, Польшчы). **Рад** атрымаў шырокае прымяненне ў лячэнні небяспечнай хваробы, папулярна званай ракам.

Не будзем тут вылічваць усіх важных адкрыццяў Марыі Складоўскай-Кюры. Даволі сказаць, што ўжо ў 1903 годзе — на 36 годзе свайго жыцця — атрымала яна слынную прэмію Нобеля за навуковыя заслугі, а праз восем год пасля, у 1911 г. другі раз атрымала гэту міжнародную прэмію. У 1926 годзе Марыю Складоўскую-Кюры выбрана ганаровым членам Акадэміі навук Саюза ССР. Была яна выбрана членам акадэмій навук многіх краін Еўропы і свету.

Марыя Складоўская-Кюры, вялікая вучоная і патрыётка незалежнай Польшчы, арганізатарка многіх навуковых інстытутаў і стваральнікаў навукі аб радыёактыўнасці, памерла ў 1934 годзе. Дзень яе смерці быў днём нацыянальнай жалобы польскага народа — і цэлага свету.

(С.Я.)




Барадзіна чакалі сёння тры навіны. Першая — загад Вярхоўнага аб наступленні на ўсім фронце для дапамогі заходнім саюзнікам у Ардэнах; другая — Стаўка ўзнагародзіла ўдзельнікаў групы «Віхор» ордэнамі Чырвонага Сцяга за аперацыю «Ракета», а трэцяя навіна: радыёграма ад Ані, у якой тая паведамляла аб тым, як быў арыштаваны гестапам Віхор, як ён уцёк і што ёй аб гэтых уцёках гаварыў палкоўнік Берг.

Тыдзень Берг чакаў, што дасць Ардэнскае наступленне. У выпадку, калі б прасоўванне Модэля і фон Рунштэдта было паспяховым, у выпадку, калі б ён зразумеў, што наступіў сапраўды той самы перадом у вайне, аб якім трубіў Гебельс, тады Коля і Віхор будуць перададзены ім у гестапа. Берг зразумеў, што гэта вялікае рызыка. Але ён смяротна змучыўся ў сваёй гульні і таму часам паддаваўся не розуму, а пачуццю.

Усё вызначылася канчаткова, калі пасля пераможных кінахронік Бергу трапіўся зварот Модэля да сваіх войск, дзе ён пісаў: «Нам удалося расстроіць запланаванае праціўнікам наступленне на нашу радзіму». Гэта для Берга аказалася дастатковым, каб розум падказаў яму: апошняя спроба сарвалася. І адразу пасля гэтага ён выклікаў свайго агента, якому была прысвоена клічка «Ота». Гэтым агентам быў Коля.

— Вось што, — сказаў Берг, калі яны выйшлі на вуліцу, — перадайце свайму шэфу, каб ён не з'яўляўся ў горадзе. Яго фатаграфія ёсць у гестапа, яго вельмі шукаюць, так як і вашу радыстку.

— Адкуль у гестапа можа быць фатаграфія майго шэфа? — здзівіўся Коля.

Берг быстра глянуў на яго і зразумеў — усё зразумеў: ён дастаткова доўга працаваў у контрразведцы супраць рускіх, каб зразумець тое становішча, у якім апынуўся шэф рускай рэзідэнтуры.

— Вось што, — сказаў ён, — наладзьце мне, як можна хутчэй сустрэчу з вашым шэфам.

Берг вырашыў, што ён, пагутарыўшы ў чатыры вочы, умацуе свае пазіцыі на будучыню: разведчыкі разумеюць вялікае ўменне прадаваць і купляць тайны адзін другога.

— Добра, — сказаў Коля. — Наладжу.

— Цяпер далей... Мы атрымалі даныя аб тым, што вашы рыхтуюць наступленне. Вы не ў курсе?

— Не.

— Вы перадалі сваім тыя даныя аб абаронным вале па Вісле—Одэру?

— А што?

— Не, нічога. Проста цікаўлюся. Як выйшлі здымкі?

— Здымкі атрымаліся добрыя.

— Не гневайцеся на мяне, але ў гэтым выпадку здайцеся на мой вопыт: гэтыя здымкі трэба перадаць вашым. Па радыё гэта і небяспечна і няпоўна.

— Вы што, хочаце прапанаваць сваю кандыдатуру для пераходу лініі фронта?

— Скажыце, калі ласка, падазронасць — гэта нацыянальная рыса рускага характару? — усміхнуўшыся, спытаў Берг.

— Вы маеце на ўвазе чуйнасць, відавочна, — таксама ўсміхнуўся Коля.

— Не, я маю на ўвазе падазронасць, менавіта падазронасць.

— Палкоўнік, мне патрэбен Краўх, — сказаў Коля раптоўна.

Паўкварталу яны ішлі моўчкі. Горад, быццам прадчуваючы набліжэнне чагосьці грознага і непазбежнага, быў затоеным, бела-чорным, нібы ў жалобе.

— Гэта складана.

— Я разумею.

— Калі ён вам патрэбен?

— Ён мне патрэбен зараз.

— Трэба падумаць. Калі я ўбачу вашага шэфа?

— Заўтра раніцай.

— Добра.

*

Першае пытанне, якое Віхор задаў Бергу, было аб Траўбе.

— Гэта для мяне навасць, — адказаў палкоўнік. — Я нічога аб гэтым не ведаў.

— Як даведацца падрабязнасці?

— Гэта немагчыма. Гестапа не пускае нас да сябе. Мы армія, яны — партыя.

— Што можна зрабіць?

— Нічога.

— Як яму дапамагчы?

— Вам хочацца дастаць з неба месяц? Аставім Траўба і вернемся да нашай гульні. Я прасіў Ота перадаць вам, каб вы не з'яўляліся ў горадзе, Попка...

Віхор памалу пагасіў сігарэту і спытаў:

— А вы гаворыце, што вас да гестапа не дапускаюць.

— Першы раз вы са мною адкрыты.

— Трэці. Не ў гэтым справа.

— А ў чым жа?

— Зараз — у Траўбе і Краўху.

— Не. У вас.

— Так?

— Так. Вы разумееце, што будзе з вамі, калі папка з гестапа трапіць да вашых? Вас дэзавуіруюць. Ці не? Тым больш вы скрывалі гэта ад сваіх супрацоўнікаў.

— Маё камандванне даведаецца аб гэтым, палкоўнік. Не будзьце маім апекунам, калі ласка. У вас не выйшла з Мухай, не выйдзе і са мною. Я ж ведаю вас па Мусе: я яго расстраляў — цяпер няма сэнсу скрываць. Але гэта — мінулае, так што не здзіўляйцеся; у вас свае козыры, у мяне свае. Мае мацнейшыя. Дапамажыце з Краўхам.

— Вы звязваліся з Цэнтрам?

— Не.

— Вельмі добра, што вы адказалі мне праўду: ад вас быў толькі адзін кароткі перахоп. Так што мяняйце пункт, ён засечаны.

— Дзе?

— Дакладна сказаць пакуль не магу, але недзе на паўночным-захадзе ад Кракава, кіламетраў у трыццаці.

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЯМА КАМУ ГАСІЦЬ

Ноччу з 10 на 21.IX.1967 года сялян Боўтрыкаў, Бандароў і Рыбакоў абудзіў прарэзлівы гул пажарнай сірэны. Усе з нячэўку сонныя выбеглі з хат. Аказалася, што гарыць хата М. Грыкі. Пажарная каманда з Бандароў хутка спяшалася з дапамогаю. Як прыехалі на месца пажару, агонь толькі што ахапіў сцены і страху хаты. Пакуль пажарнікі размантавалі шлангі, пакуль прывялі ў рух мотапомпы, не было ўжо чаго і гасіць. Яны аблілі толькі вадой недагарэлыя галавешкі. Вось што за пажарнікі. Толькі завуцца пажарнікамі, а сапраўды пажару няма каму гасіць.

«Чарот»
Беластоцкі павет




Ноччу 7 на 8 кастрычніка г.г. ва Уладзіміра Гаўрылюка з Беластока ўкралі матацыкл «Панонія», вартасцю ў 10 тысяч зл. Міліцыя хутка ўстанавіла, што ўкраў яго 24-гадовы Геронім Кастэцкі, які жыве ў Беластоку на вуліцы Вонскай 20. Злодзея арыштавалі, а матацыкл міліцыя вярнула яго ўласніку.

Раніцай 8 кастрычніка на панадворку Яна Панькоўскага з Нараўкі ўспыхнуў пажар. Згарэла пуня і хлеў, а разам з хлявом 4 парсюкі і сельскагаспадарчыя прылады. Затраты ацэньваюцца на 40 тысяч зл. Пажар узнік ад вогнішча, якое расклалі дзеці: 6-гадовы Міраслаў Панькоўскі і 10-цігадовы Генрык Шупуль.

5 кастрычніка г.г. Ян Тугліс з Нараўкі ў час сваркі ўдарыў лапатай Уладзіслава Тугліса і такім чынам разрубаў яму галаву. Пракурор загадаў арыштаваць злачынцу.

5 кастрычніка г.г. на чыгуначным пераездзе ля станцыі Нараўка пасажырскі цягнік наехаў на паштовую аўтамашыну «Ныса», у якой знаходзіліся: шафёр Ян Ваўранюк, 40 год, з Бельска, канваент Язэп Клімашэўскі, 68 год, таксама з Бельска і настаўнік з Семяноўкі Уладзіслаў Кічко, 24 гады. Усе яны пацярпелі цяжкія параненні, а самаход быў зусім разбіты. Прычынай няшчаснага здарэння была неасцярожная язда шафёра.

Пятро Башун з Ліпін у Гайнаўскім павеце едучы п'яны на матацыкле наехаў на Валю і Антона Туліглоўцаў, сам таксама перакуліўся. Доследы вядзе гайнаўская міліцыя.

**Асака**

«Дакладна, — адзначыў у думках Віхор, — домік лесніка менавіта там. Але ж Аня не магла выходзіць на сувязь сама, без майго дазволу. У чым жа справа? А мо, нейкае няшчасце з Аняй?!» — раптам мільганула ў Віхра.

— З Цэнтрам я звяжуся сёння. Заўтра я або мае людзі перададуць усё, што датычыць вас.

— Добра.

— Калі вы прадумаеце аперацыю з Краўхам?

— Да заўтрашняга дня я што-небудзь надумаю. Ота будзе ведаць. Ён вам скажа... З Краўхам трэба зрабіць усё так, каб было проста, без мудрагельства... Відаць, на мудрагельства ў нас няма часу... Я паспрабую што-небудзь падказаць...

— Добра.

—Да заўтра.

— Усяго добрага.

«Мо Траўб паказаў на Трампчынскага? — жахнуўся Віхор. — А той прывёў іх на яўку ў лес? Не. Гэтага не магло быць. Трампчынскі ніколі не зробіць гэтага. Трампчынскі — жалезны чалавек, яго не зламаць. У горадзе яго няма — трэба неадкладна ехаць за горад, папярэдзіць, каб ён схаваўся, і забраць Анюту. У Сівога ёсць запасныя кватэры.

Калі Віхор рыўком адчыніў дзверы доміка лесніка, Аня паднялася і сказала Трампчынскаму, які стаяў за спіною Віхра:

— Пачакай.

— Няма часу, Аня, — сказаў Віхор, — аб усім — потым.

— Няхай ён выйдзе, — зноў сказала Аня, і Віхор убачыў у яе руцэ парабелум.

**(Працяг будзе)**

## КЛОПАТЫ ГЕАДЭЗІСТАЎ

Гайнаўскае праўленне геадэзіі ў некаторых вёсках мае шмат клопатаў з адшуканнем Дзяржаўнага фонду зямлі, якая знаходзіцца там у дробных кавалачках.

У вёсцы Дабрывады цераспалосіца. Там 78 га дзяржаўнага фонду зямлі знаходзіцца ў 78 кавалках. Яшчэ цікавей у Белках. Дзяржаўнага фонду зямлі налічваецца ў гэтай вёсцы 132 га. А знаходзіцца яна аж у 1300 кавалках. Вось таму вялікія цяжкасці маюць геадэзісты ў сваёй працы звязанай з камасацыяй зямлі. (мх)

## ПАВЯЛІЧВАЮЦЦА РАДЫ ПАРП

Польская аб'яднаная рабочая партыя на вёсках Гайнаўшчыны з кожным годам павялічвае свае рады. Вось, напрыклад, у Масеве ў мінулым годзе ПОП налічвала толькі трох членаў партыі. А ў 1967 годзе прынята там 10 новых членаў, а ў Скупаве — 3. Значна павялічылася колькасць членаў партыі і ў іншых вёсках грамады Нараўка. Зараз нараўская партыйная арганізацыя налічвае 216 членаў.

Тут ужо закончаны ўсе арганізацыйныя справы звязаныя з абменам партыйных білетаў. (м.х.)

## КАБ НЕ ЗМОК СТАРШЫНЯ

У вёсцы Мора, Гайнаўскага павета, гэты год прынёс вялікія перамены. Вясной у Мора прыехалі меліяратары і так пастараліся, што за лета правялі поўную меліярацыю і дрэнацыю. Работа ўжо закончыцца ў гэтым месяцы. Дзякуючы ГРН у Старым Корніне пачалася будова дарогі з Корніна ў Мора. Вялікая заслуга ў гэтым дарожнага майстра Пятра Шэршаня, які вельмі клапоціцца пра хуткую пабудову гэтай дарогі. Жыхары Мора кажуць: «Вось цяпер будзем жыць лепей. Усе да нас будуць ехаць добрай дарогай. Можа нават прыедзе сам старшыня ГРН з Корніна Іван Гаўрылюк і пабачыць, што наш клуб «Руху» не мае шыбаў у вокнах. Хаця б не прыехаў ён у дождж, а то, чаго добрага, яшчэ змокне ў гэтым клубе, бо дах у ім зусім дзіравы».

Зямляк
Мора




Дарагое Сэрцайка!

Я хачу напісаць сваю «бяду» і прасіць цябе парады. Пазнаёмілася з Тоськам даўно. Мне 23 гады, працую ў горадзе. Ён працаваў у другім горадзе. Часта прыязджаў да мяне. Тосек заўсёды гаварыў пра наш шлюб, але я заўсёды адкладала. Таму што я чакала на спулдзельчую кватэру. У мінулым годзе хлопец мой паставіў справу сур'ёзна: так або не? Я яму тлумачыла, каб пачакаў, пакуль атрымаю кватэру, а тады пажэнімся. Інакш я не захацела. Так і зрабіла. Думала, што ён аднак згодзіцца і будзе на мяне чакаць. А выйшла інакш. Ён ажаніўся. Паспеў ужо нават пакінуць жонку, хоць разводу яшчэ не атрымаў. Цяпер просіць мяне, каб я выйшла за яго замуж. Аднак я яму сказала, каб забыўся пра мяне, як я пра яго. Я хутка ўжо атрымаю кватэру, маю крыху мэблі і хацела б пазнаёміцца з разумным хлопцам, а не з такім, якім быў Тосек. Мне здаецца, што я маю рацыю ў тым, што Тосек павінен забыць пра мяне і вярнуцца да жонкі. Не ведаю, хто з нас мае рацыю, я ці ён? А мо чытачы да мяне напішуць, як мне паступіць? Чакаю і дзякую за параду.

Івона
з горада Г.

Івона!

Мне здаецца, што ты маеш рацыю і цяпер, калі сказала Тоську, каб забыў пра цябе і ішоў да жонкі, а таксама тады, калі прасіла яго пачакаць на кватэру. З лісту відаць, што Тосек лёгкадумны і то вельмі, таму не маеш прычыны, каб перажываць. Гэта толькі мая думка, мо хто інакш думае, хай напіша. Чакаем.

Сэрцайка



**На спартыўнай пляцоўцы ля школы ў Старым Ляўкове.** Фота: Я. Цялушэцкі

## У ДЗЕТСАДЗЕ

Прыемна гуляюць дзеці ў дзетсадзе № 2 у Бельску Падляшскім. Пад клапатлівай апекаю знаходзіцца ў ім штодзённа 56 малышоў. У старэйшай групе выхавацельніцы часта вядуць гутаркі аб правілах вулічнага руху.

Тэкст і фота
**П. Зінкевіч**
Бельск Падляшскі



## КАПАЧКІ

Бульбяныя капачкі набіраюць належнага ім поспеху. Гаспадары ў некаторых вёсках проста чакаюць на іх, і хаця пагода добрая, не ідуць гартаць зямлі рукамі або матыкамі. Як сцвярджае сакратар ГРН у Нараўцы, Мікалай Семяняка, у Скупаве і Міклашэве гаспадары ўжо адвыкаюць ад капання бульбы ўручную. Капаюць яе ў асноўным капачкаю. І так, Яфім Сцепанюк са Скупава на працягу двух дзён выкапаў бульбу. Гэту працу ўручную выконваў бы не менш, як тры тыдні.

(мх)



**Вёска Скупава.**

Фота: Я. Цялушэцкі

## ХЛЕЎ НА ДАРОЗЕ

Ёсць анекдот:

Інжынеры звяртаюцца да гаспадара:

— Праз ваш дом будзе праходзіць чыгуначная дарога.

— Гэта яно так, — гаворыць гаспадар, — але хто будзе адчыняць і зачыняць дзверы для цягнікоў?

Штосьці падобнае здарылася ў вёсцы Турна Малая, Сямяціцкага павета. Будаўнікі жвіровай дарогі, якая спалучае Турну Малую з Волькай над Бугам, так пакіравалі гэтую дарогу, што яна якраз перасякае хлеў і фундамент пад дом Аляксандра Вакулюка з Турны Малой. Гаспадар не ўступае, бо не хочуць яму заплаціць толькі, колькі ён патрабуе. Дарога перагароджана ўжо год часу.

тэкст і фота: ВР



# КІНО

**Праграма
на 31.X. — 5.XI.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

,,Pancernik Potiomkin'' (radz.), 31.X. — 1.XI. ,,Gwiaździsty bilet'' (radz.), 2—3 XI. ,,Dziewczęta'' (radziecki), 4—5 XI.

**Кляшчэлі**

,,Zielone światło'' (radz.), 31.X. — 1.XI. ,,Złoty ładunek'' (radz.), 2—3 XI. ,,Matczyne serce'' (radz.), 4—5 XI.

**Дубіны**

,,Kozacy'' (radz.), ,,Piekło i niebo'' (radz.), 4—5 XI.

**Нараўка**

,,Czas rozłąki'' (radz.), ,,Ich dzień powszedni'' (radz.), 2—5 XI.

**Нарва**

,,Nieśmiały w akcji'' (radz.), ,,Wódz czerwonoskórych'' (radz.), 2—5 XI.

**Чыжы**

,,Tajemnica zielonego boru'' (radz.), ,,Sąd'' (radz.), 2—5 XI.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Gdzie jest trzeci król'' (radz.), ,,Porzucona'' (radz.), 2—5 XI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Don Gabriel'' (radz.), ,,Pilot odrzutowców'' (radz.), 2—5 XI.

**Орля**

,,Bariera ognia'' (radz.), ,,Kontrybucja'' (radz.), 2—5 XI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radz.), 31.X. — 3.XI.

**Міхалова**

,,Dziewczęta'' (radz.), 31.X. — 1.XI. ,,Na pokładzie stanął kapitan'' (radz.), 2—3 XI. ,,Dzieci Don Kichota'' (radz.), 4—5 XI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Matczyne serce'' (radz.), 31.X. — 1.XI. ,,Dom na rozstajach'' (radz.), 2—3 XI. ,,Dwie sroki za ogon'' (radz.), 4—5 XI.

**Шудзялава**

,,Cierpkie głogi'' (radz.), ,,Kraksa'' (radz.), 3—5 XI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Dziewczęta'' (radz.) ,,Kołysanka'' (radz.), 3—5 XI.

**Новы Двор**

,,Gdy drzewa były duże'' (radz.), ,,Dotknięcie nocy'' (radz.), 4—5 XI.

**Ліпск**

,,Czekajcie na listy'' (radz.), ,,Wołga - Wołga'' (radz.), 4—5 XI.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.




 

Ежы Вітлін

# Як паставіць сямейны спектакль?

Вельмі рэдка прафесіянальным акцёрам у сапраўдным тэатры ўдаецца ўсхваляваць нас драмаю, якая разыгрываецца на сцэне. Вельмы рэдка мы выходзім з тэатра перакананымі ў тым, што паказанае нам відовішча мае нейкую сувязь з нашым жыццём.

Гэтую нястачу тэатральных уражанняў мы кампенсуем самі, ставячы сямейныя спектаклі. Не трэба даставаць білеты, не трэба спяшацца ў тэатр, не трэба пакутаваць, гледзячы на тое, як нехта там мудруе на сцэне: увесь спектакль мы ствараем самі, ставім яго, іграем галоўную ролю, выступаем у любы зручны для нас час — удзень або ўначы.

Ніжэй мы прапануем некалькі ідэй сямейных спектакляў, акцёрамі і рэжысёрамі якіх могуць быць жанчыны, мужчыны або дзеці. Мы ўлічылі пры гэтым разнастайнасць сцэнічных форм, колькасць дзеючых асоб, час спектакля.

### Ідэя 1.

Загаловак: «Мой муж дома».

Жанр: сатырычная манадрама.

Дзеючыя асобы: жонка, можа быць і муж, бліжэйшыя сябры мужа.

Час дзеі: нашы дні.

Кароткі змест п'есы:

Карыстаючыся выпадкам, жонка малюе бліжэйшым сябрам мужа ў бясконцым маналогу найменш вядомыя ім інтымныя бакі яго жыцця — дом.

Змест маналога — звычкі і слабасці мужа, яго хваробы і недамаганні, выдуманыя і сапраўдныя, яго тайныя мары і жаданні.

Калі муж прысутнічае на гэтым спектаклі, ён спрабуе спыніць жонку. Калі відовішча праходзіць без яго, ніхто не перапыняе.

### Ідэя 2.

Загаловак: «Мае сны заўсёды збываюцца».

Жанр: псіхалагічная драма.

Дзеючыя асобы: муж, жонка, дух доктара З. Фрэйда.

Месца дзеі: кватэра.

Кароткі змест п'есы:

Муж у роспачы вяртаецца дадому. Яго знялі з пасады. Паведамляе гэтую навіну сваёй жонцы. У першую мінуту жонка хвалюецца, аднак потым раптам становіцца амаль всёлай, робіць выгляд, што нешта прыгадвае.

— Мае сны заўсёды збываюцца, — суцяшае яна мужа. — Калі дзесяць год назад цябе вылучылі на гэтую пасаду, з якой зараз знялі, мне прыснілася брудная бялізна. А брудная бялізна — гэта клопат. Мае сны заўсёды збываюцца.

### Ідэя 3.

Загаловак: «Калі б я ведала, што ты за чалавек».

Жанр: фарс з эпілогам.

Дзеючыя асобы: муж, жонка.

Месца дзеі: кватэра.

Кароткі змест п'есы:

Муж заяўляе жонцы, што вырашыў з ёю развесціся, таму, што яна яго не разумее. Жонка перажывае рашэнне мужа.

— Калі б я ведала, што ты за чалавек, ніколі б за цябе не выйшла.

Потым выходзіць за другога, памылкова мяркуючы, быццам ведае, што ён за чалавек.









### БЫЎ ПРЫ ПАМЯЦІ

Доктар: — Калі хворы быў яшчэ пры памяці?

Удава (плачучы): — За адзіну перад смерцю.

Доктар: — А па чым вы ведаеце, што ён быў пры поўнай памяці?

Удава: — Ён аблаяў вас і ваша лякарства.

### СРОДАК АБАРОНЫ

Суддзя да абвінавачанага: — Чаго ты прыйшоў сюды з калом?

Абвінавачаны: — Мой адвакат сказаў мне, каб я меў у судзе сродкі абароны.

### БЕЗ КАСЦЕЙ...

— Дайце мне пячонкі паўфунта, толькі каб была без касцей.

### ПРЫСЯГА НА ШЛЮБЕ

— Бярэш?
— Але.
— Сабе?
— Няўжо ж каму.
— За жонку?
— Пэўна ж не за дзеўку.
— Не маніш?
— Не-э-э...
— Аж да смерці?
— Вось прычапіліся!

### САМ ВІНАВАТЫ

Маці да чатырохгадовай Ганулі:

— Гануля, нашто ж ты ката цягнеш за хвосцік? Яму ж баліць.

— Я, мамачка, не цягну, а толькі трымаю. Кот сам цягне.

### ГУМАР І АПАЛОНІКА

**Грудзі ў ордэнах таксама бываюць у сярэдзіне пустыя.**

*

**Кожны сакрэт толькі датуль ёсць таямніцай, пакуль аб ім не даведаецца сяброўка.**

*

**Каб слон ведаў ноты, то быў бы вельмі талепавітым трубачом.**

*

**Наймацнейшым фундаментам кожнага дому ёсць сямейная згода.**

*

**Добрыя весткі ўсім цудоўна пахнуць.**

А. Дынвік

# Напалохаў

Хвядосава жонка
Лянівая — жах.
Ляжыць, як трохтонка,
На пухавіках.

Аднойчы для ежы
Ў суботу Хвядос
Дзве камбалы свежыя
Жонцы прынёс.

— Анісся! — ён кажа, —
Давай на абед
Мы рыбкі засмажым,
Абрыд вінегрэт.

Прыўстала на месцы,
На кухню пайшла
І рыбіну скрэсці
З хваста пачала.

— Не рыба — марока,
Як баба-яга.
Чаму аднабокая
Камбала, га?

Хвядосу ахвота
Сказаць гэтак ёй,
Каб выгнаць ляноту
З Аніссі сваёй.

— Бо рыба, — гаворыць, —
На дне, у ціньку
Ляжыць сабе ў моры
На гэтым баку.

Хвядос на работу
Пайшоў ад стала,
А жонка з ахвотай
У ложак лягла.

Стаць зломкам баялася —
Муж засцярог! —
Дык часта кулялася
З боку на бок.

Пераклаў з украінскай
М. Алтухоў

[illegible] па заяўках

Па просьбе Ірэны Клепацкай з вёскі Ляды, Гайнаўскага павета, змяшчаем беларускую песню п.з.

# БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Словы А. Русака

Музыка І. Любана

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Дадому, дахаты.

Мы слаўна гулялі
На вашым вяселлі,
Было нам даволі
Ўсяго, што хацелі.

На рэчках на вашых
Бурліліся б воды,
Каб плавалі з крыкам
Гусей карагоды.

Хай кожны з вас будзе
Здаровы, дзябёлы,
Хлявы былі б поўны
Усякай жывёлы.

Кароў шмат і коней,
Свіней і авечак,
А куры каб неслі
Па возу яечак.

Каб жыта у полі
Трубою вілося,
А ў хаце каб сала
Кублами вялося.

Штодзень у капусце
Каб плавала скварка,
А к ёй, калі трэба,
Знайшлася б і чарка.

Каб вам шанцавала
Ды часта на госці,
Ніхто б ды ніколі
Не меў на вас злосці.

Не толькі каб людзі
Ад вашай брыгады, —
Каб вашаю працай
Мы ўсе былі рады.

Каб вам і пашана
Была дарагая.
Каб слава хадзіла
Ад краю да краю.

Жадаем яшчэ вам
Прыбытку у хаце —
Не мала, не многа —
Штогод па дзіцяці.

Не будзе вам крыўды
Яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе
На год і па двое.

Дарогу ж мы знаем
Да вас ягамосьці,
Да вас будзем ездзіць
Мы часта у госці.

Ці то на адведы,
Ці то на радзіны,
Вазіць караваі
Па дзве паўасьміны.




На першы погляд, гэты кангрэс мала чым адрозніваўся ад іншых міжнародных форумаў: конкурс, строгае журы і, вядома, розныя прэміі, з якіх самая спакуслівая, як заведзена паўсюдна, «Гран-пры»...

Настаў доўгачаканы час адкрыцця, слова бярэ арганізатар кангрэса. Але што гэта? Ён, старанна завязаўшы вочы, садзіцца ў аўтамабіль і накіроўваецца на прагулку па гораду. Паліцыя спакойная — правілы вулічнага руху захоўваюцца «сляпым» вадзіцелям дакладна. І вось пачынаецца кангрэс. На стале прэзідыума з'яўляецца графін з вадой, які раптам сам па сабе пусцее. Металічныя кольцы, якія ляжаць на абрусе, невядома па чыйму загаду і хаценню змацоўваюцца ў ланцужок. І тут ужо адбываецца зусім незразумелае: адзін удзельнік кангрэса праходзіць на трыбуну са сваім асістэнтам і... адсякае яму галаву (!).

І ўсё ж гэта — не шабаш ведзьмарак, не пір Алі-Бабы і не хітрыкі старога Хатабыча. Гэта самы сапраўдны кангрэс, кангрэс чараўнікоў. Яго ўдзельнікі сабраліся ў ліпені ў горад Бадэн-Бадэн, каб паказаць свае поспехі і абмяняцца вопытам.

Тры дні на сцэне падарожнічалі карты з аднаго рукава ў другі, запальваліся цыгары ад жаночых прычосак, вылятаюць галубы з паветраных шароў.

Але разам з гэтымі даўно вядомымі фокусамі было паказана і шмат новага, цікавага, дасягнутага дзякуючы тэхнічнаму прагрэсу. З дапамогай сінтэтыкі ілюзіяністы атрымалі нейлонавых зайцаў, цуда-цыліндры, якія можна схаваць у кулак.

Найбольш удала на кангрэсе выступілі ілюзіяністы Галандыі. Іх прадстаўнік Дзі Сата, удастоены прэміі «Гран-пры — 1967», прадэманстраваў здзіўляючае спалучэнне «страшных» трукаў з ужываннем новай тэхнікі. На думку гледачоў, эфектам Дзі Сата мог бы пазайздросціць любы рэжысёр, які інсцэнізуе візіт статуі Камандора ў госці да Дон Жуана...



**Піў, калі не было чаго рабіць; рабіў, калі не было чаго піць.**